 




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

15 снежня 2000 года
№ 50 (295)
Цана ў розніцу 102 рублі

ТУ плюс

## Навіны рэгіёна



### Хвароба Боткіна крочыць па Вілейшчыне

**ВІЛЕЙКА.** У некаторых школах горада і раёна часова забаранілі праўдзенне масавых мерапрыемстваў. "Вінаватая" у тым хвароба Боткіна. Найбольш пацярпелых у вілейскай СШ №3, сярэдняй школе ў Вязыні, пачатковай у Ерхах. Да якога тэрміну будзе працягвацца так званы каранцін – невядома.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Тэлефон установяць кожнаму

**СМАРГОНЬ.** У будучым тысячагоддзі кожны смаргонец зможа паставіць кватэрны тэлефон. Прычым зробяць гэта ўсе, хто пажадае і ў першым жа годзе тысячагоддзя.
На сённяшні дзень тэлефоны маюць 80% смаргонцаў (тры тэлефонныя станцыі на 11200 нумароў). У будучым годзе ёмістасць АТС прырасце не менш, як на тысячу нумароў.

**Павел МАКЛЮК.**

### Падарунак дзецям да Новага года

**МАЛАДЗЕЧНА.** Кінатэатр "Радзіма" прапанаваў на дні зімовых канікулаў абанемент на фестываль "Калядныя казкі".
Цана кінаабанемента (10 фільмаў) 500 рублёў. Звычайны кошт дзіцячага білета на 1 сеанс – 90 рублёў, абанемент дае скідку амаль у 50%.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Новы член Саюза пісьменнікаў

**МЯДЗЕЛ.** Нядаўна рады СП Беларусі папоўніла маладая паэтка **Наталля Казапалянская** (літаратурны псеўданім Капа).
Яна нарадзілася ў Мядзеле. Колькі год настаўнічала ў вёсцы Вузла. Цяпер працуе ў Мінску галоўным архівістам Нацыянальнага гістарычнага архіва. У Наталлі выдадзеная кніга вершаў "Панна Каханка".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Міліцыянеры танчылі ды спявалі

**ВІЛЕЙКА.** На мінулым тыдні прайшоў занальны агляд–конкурс мастацкай самадзейнасці органаў і падраздзяленняў унутраных спраў. Акрамя чатырох калектываў мінскай часткі рэгіёна, прыехалі прадстаўнікі Лагойска, Заслаўя і Стоўбцаў. Кожная з каманд прадстаўляла 30–хвілінную праграму. З жанраў былі задзейнічаныя песня (у тым ліку, аўтарская), гумарэска, гумарыстычная сцэнка і танец. Журы выбірала найбольш цікавыя нумары на фінальны конкурс 22 снежня ў Мінску. Аснову "зборнай" складуць віляйчане – праз тыдзень яны пакажуць 4 нумары.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### «Расінкай» і «Машуткай» – па хваробах

**МЯДЗЕЛ.** На Нарачанскім масласырзаводзе ўзнавілі выпуск "Біфілайфа" і пачалі вытворчасць малака "Расінка" і сметаны "Машутка" – прадуктаў з біфідафлорай. Прадукты гэтыя карысныя для ўсіх: яны аднаўляюць мікрафлору кішэчніка.
Новая прадукцыя нятанная: прыкладам, малако "Расінка" у два разы даражэйшае за звычайнае. Таму большасць прадукцыі ідзе на Мінск, бо ў сталіцы людзі нават крыўдавалі, калі на заводзе на пэўны час спынілі выпуск "Біфілайфа".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Адмена электрычак



**15 снежня**
Адпраўленнем 10.58, 13.41 прыбыццём 11.47, 13.49
**18, 19 снежня**
Адпраўленнем 13.41, 14.35 прыбыццём 11.47, 13.49
**20-22 снежня**
Адпраўленнем 10.58, 13.41 прыбыццём 11.47, 13.49

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 16 снежня

**Мінск**
-1 – -2°С (уначы)
1 – 2°С (удзень)



**Вільня**
-1°С (уначы)
3°С (удзень)



Нядзеля, 17 снежня

**Мінск**
1 – -2°С (уначы)
0 – 3°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
5°С (удзень)



# Вілейская школа мастацтваў можа закрыцца

**ВІЛЕЙКА. З новага года месячная плата за навучанне дзяцей, якія іграюць на музычных інструментах, можа ўзрасці мінімум у 4 разы і пераваліць за мяжу 10 тысяч рублёў.**

Для параўнання: у Маладзечанскай дзіцячай музычнай школе (ДМШ) за лістапад яна складала, у сярэднім, тысячу сто рублёў (калі не лічыць вучняў падрыхтоўчых класаў). Столькі ж плацяць, прыкладам, і ў Мядзеле.

Адказныя работнікі культуры сцвярджаюць, што сабекошт навучання дзяцей у музычных школах вышэйшы за бацькоўскую аплату. Напрыклад, дырэктар Маладзечанскай ДМШ **Бэці Аўдзеенка** гаворыць, што месячнае навучанне ў гэтай школе каштуе каля 15 тысяч рублёў. Розніцу паміж сабекоштам і бацькоўскай аплатай пакрывае мясцовы бюджэт.

А ў Вілейцы няма гарачай вады, якое ўжо дзе тут мастацтва. Грошы ў бюджэце ў канцы года не знойдзеш днём з агнём, таму памер аплаты павялічваўся ці не ў геаметрычнай прагрэсіі: за верасень – 835, кастрычнік – 2600, лістапад – 3600 рублёў. Некаторыя бацькі хацелі забіраць сваіх дзяцей, але настаўнікі ўгаварылі іх пакуль не рабіць гэтага.

9 лістапада ў Вілейскі райвыканком прыйшла пастанова міністэрства адукацыі, у якой гаворыцца, што кошт аплаты за навучанне павінен вызначацца з улікам усіх выдаткаў. Гэта значыць, што школа павінна будзе існаваць за кошт бацькоўскіх узносаў.

Эканамісты аддзела культуры падлічылі, што да канца года бацькі павінны плаціць па 3600 рублёў. Але з пачатку наступнага года яны вызначаюць розныя лічбы аплаты. Даводзілася пачуць сумы ад 10 да 14 тысяч рублёў штомесячна. Пры такім раскладзе 99% бацькоў не змогуць утрымліваць сваіх дзяцей у музычнай школе.

Канфліктную сітуацыю пакуль зняў ліст з міністэрства культуры, які прыйшоў у Вілейку на мінулым тыдні. У ім цяпер ужо былы міністр культуры зацвердзіў канкрэтную плату за навучанне ў другім паўгоддзі. У залежнасці ад інструмента, кошт вагаецца ад 1200 (домра, цымбалы, балалайка, смычковыя, духавыя і ўдарныя) да 2500 рублёў (фартэпіяна, гітара). Таму да канца года наступіла стабільнасць.

Цяпер бухгалтэрыя робіць пераразлік з улікам таго, што дыферэнцыраваныя цэны ўвайшлі ў сілу з кастрычніка. Тыя грошы, што бацькі заплацілі звыш за новыя цэны, пойдуць на аплату за студзень.

Добра, калі прыйдзе новы загад з міністэрства культуры, дзе будуць вызначаныя фіксаваныя цэны. А загады не абмяркоўваюць, іх трэба выконваць.

Бліжэйшае пасяджэнне Вілейскага райвыканкома адбудзецца 28 снежня. Яго тэмай стане "выкананне бюджэту раёна ў 2000 годзе і аб прагнозе сацыяльна–эканамічнага развіцця раёна і бюджэце на 2001 год".

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
У Маладзечанскай дзіцячай музычнай школе дзеці пакуль не засумавалі.

## Экспрэс–апытанне віляйчан і маладзечанцаў

# Што вы хацелі б атрымаць у падарунак на Новы год?



**Інэса Зайцава, майстар ПТВ-87, Маладзечна:**
– Нешта канкрэтнае не магу назваць. Прыемна, калі пра цябе памятаюць, а жанчына ўсяму можа знайсці прымяненне.



**Тацяна Мароз, навучэнка ПТВ-87, Маладзечна:**
– Машыну, пажадана, джып. У мяне ёсць мара – пасля заканчэння вучылішча зарабіць грошы і атрымаць вадзіцельскае пасведчанне.



**Людміла Юша, старшы судовы выканаўца, Маладзечна:**
– Лепшым для мяне падарункам будзе сустрэць Новы год разам з мужам, які цяпер далёка ад сям'і, і дачкой.



**Любоў Войнікава, судовы выканаўца, Маладзечна:**
– Хачу жывога сабаку. Але я ведаю, што ніхто мне яго не падорыць.



**Аляксандр Давідовіч, настаўнік матэматыкі, Маладзечна:**
– Хачу, каб жонка мне сына падарыла, але яна нешта не хоча. Асабліва, калі паглядзіць на сённяшнія цэны.



**Уладзімір Лісюнін, настаўнік фізкультуры, Вілейка:**
– Здароўе дзяцей. Я працую не для таго, каб атрымаць машыну ці дачу. Для мяне галоўнае – дзеці.



**Ларыса Севасцьянава, вучаніца 7 класа СШ №3 Вілейкі:**
– Моцнае здароўе, шчасце, добрыя адзнакі. І ўвогуле, хачу, каб усё было добра.



**Вольга Ярашэвіч, кансультант, Маладзечна:**
– Вялікага плюшавага мішку. Прыгожага–прыгожага!

**Фотаапытанне падрыхтавалі Яўгенія МАНЦЭВІЧ і Юрый КАРПІЦКІ.**

 

■ АХОВА ПРАЦЫ

# Працоўнае заканадаўства і малы бізнес

**МАЛАДЗЕЧНА. Пры праверках прадпрыемстваў малога бізнесу і прадпрымальнікаў, што вядуць сваю дзейнасць у Маладзечанскім раёне, дзяржінспекцыя працы толькі за 11 месяцаў выдала 24 прадпісанні.**

У рабоце 25 праверaных суб'ектаў гаспадарання і прадпрымальнікаў зафіксавана 676 парушэнняў патрабаванняў "Правілаў аховы працы і працоўнага заканадаўства". З гэтай прычыны прыпыненая работа 56 машын і станкоў, прымяняліся і эканамічныя санкцыі.

На трох прадпрыемствах адбыліся няшчасныя выпадкі. Два з іх кваліфікуюцца, як цяжкія, а трэці прывёў да смерці чалавека. Хаця ўсяго ад прадпрыемстваў малога бізнесу, большая частка з якіх займаецца вытворчасцю, паступіла за 11 месяцаў 8 актаў аб няшчасных выпадках на вытворчасці.

Недахопы ў арганізацыі аховы працы на прадпрыемствах малога бізнесу Маладзечаншчыны тыя ж, што і ў дзяржаўных. Наймальнікі нават у статутах не пазначаюць сваю адказнасць за ахову працы. Натуральна, няма загадаў, якія б вызначалі і спецыяльных адказных асоб. Мала хто з кіраўнікоў прайшоў атэстацыю ў камісіі пры райвыканкоме.

З усяго можна вызначыць прадпрыемствы, што ўваходзяць у своеасаблівую групу рызыкі. Можна сказаць, што інспектары не здзівяцца, калі менавіта на іх адбудуцца няшчасныя выпадкі.

Стаўленне да наёмных работнікаў адлюстроўвае тое, што на прадпрыемствах малога бізнесу, якія займаюцца вытворчай дзейнасцю, адсутнічае нават пералік работ павышанай небяспекі. А допуск да выканання іх патрабуе навучання па ахове працы. Не кажучы ўжо пра павышаную небяспеку для жыцця і здароўя людзей, занятых на некаторых работах.

Інжынеры па АП ёсць толькі на прадпрыемствах, што працуюць даўно і вядомыя ў рэгіёне, – ААТ "Забудова", "Сельскі будаўнік", МСПМК. Вось і атрымліваецца, што ў ТАА "Вегас" і ААТ "Будкантракт" дапушчаныя да эксплуатацыі няспраўныя дрэваапрацоўчыя станкі, у "Канвэкс–Бел" электразварачныя работы вядуцца на незаземленых апаратах, выкарыстоўваюцца кабелі з парушанай ізаляцыяй.


Фота IREX/ProMedia.
Вывучаем «Правілы аховы працы»?

Словам, арганізацыйныя пытанні па ахове працы на прадпрыемствах малога бізнесу ў раёне рашаюцца нездавальняюча. Таму даведка па выніках праверак дасланая ў пракуратуру і райвыканком.

**Вера СУМІНА,**
**дзяржінспектар працы.**

■ ПАШПАРТЫЗАЦЫЯ

# Хваляваца не трэба, але пашпарт лепш атрымаць

**МАЛАДЗЕЧНА. Апошнім часам па рэгіёне пайшла хваля чутак пра нібыта тэрміновы абавязак атрымаць пашпарт новага ўзору. Маўляў, інакш "вінаватых" будуць вылоўліваць і бязлітасна штрафаваць. Недарэмна ж новае тысячагоддзе надыходзіць. Сітуацыю мы папрасілі пракаментаваць начальніка пашапртна–візавага аддзялення Маладзечанскага ГРАУС Міхаіла Шута.**


Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.
Начальнік пашпартна–візавага аддзялення Маладзечанскага ГРАУС Міхаіл Шут.

– Праграма ўсеагульнай пашпартызацыі насельніцтва – маю на ўвазе выдачу новых пашпартоў з сімволікай узору 1996 года – з'яўляецца дзяржаўнай. Пашпарт, натуральна, мець абавязкова, але канкрэтных тэрмінаў завяршэння згаданай праграмы цяпер не існуе. Хаця магу сказаць, што ў бліжэйшы час адпаведнае рашэнне ўрада чакаецца.

**– Ці шмат жыхароў Маладзечаншчыны займелі пашпарты новага ўзору?**

– На сёння (размова была ў аўторак – аўт.) гэтая лічба складае прыкладна 53,5 %.

**– Што параіце астатнім?**

– Парэкамендую не бегчы неадкладна і ўсім адразу па пашпарт, але рашэнне варта прыняць. Даўно няма такой краіны, як СССР. Патрэбны новы дакумент і пенсіянерам. Хаця б таму, што спросціцца выезд у Літву, Украіну. Нічога, на жаль, не вядома пра Грузію, дзе Расія ў аднабаковым парадку ўвяла візавы рэжым. Хаця, я не лічу, што ў нас шмат жадаючых туды паехаць.

**– Найбольш пытанняў чытачы "РГ" задаюць па выездзе якраз ва Украіну.**

– З 1 студзеня ва Украіну магчыма трапіць па нашых нацыянальных пашпартах. Віза не патрэбная, дастаткова штампа "выезд дазволены ва ўсе краіны свету". Дзеці таксама выязджаюць па пашпартах.

**– Можа, ёсць яшчэ якія "хітрасці", што тычацца нашай краіны–суседкі?**

– Ёсць. Усе грамадзяне Украіны, што пастаянна жывуць па відах на жыхарства ў РБ, аднак не маюць замежных пашпартоў (г. зн., прыехалі да нас да 1997 года) для выезду ва Украіну павінны аформіць нацыянальныя пашпарты грамадзян Украіны. Зрабіць гэта можна ў пасольстве Украіны ў РБ. Акрамя таго, многія грамадзяне Украіны маюць магчымасць займець грамадзянства Беларусі – у адпаведнасці з двухбаковым пагадненнем аб спрошчаным атрыманні. Пасля гэтага яны могуць аформіць беларускі пашпарт. Я пастаянна паўтараю словы "грамадзянін", "грамадзянства", бо без гэтых тэрмінаў мой каментарый будзе недакладны.

**– Многія беларусы і цяпер ездзяць за мяжу па агульнаграмадзянскіх замежных пашпартах савецкага ўзору. Колькі яны яшчэ будуць сапраўдныя? Бо ў Еўрасаюз уступае Польшча, таму і там непазбежна спатрэбіцца віза.**

– Па 31 снежня 2001 года. Адпаведна не пазней за гэтую дату і прадаўжаем мы іхні тэрмін дзеяння.

**Падрыхтаваў**
**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



■ СРОДКІ МАСАВАИ ІНФАРМАЦЫІ

# Беларусь на трэцім месцы ў СНД (адзаду)

**МІНСК. Месца ў канцы спісу краін СНД вызначыла для нашай краіны работнік Еўрапейскага інстытута сродкаў масавай інфармацыі Джыліян МакКормак. Яна ў рамках інстытута курыруе краіны СНД. А крытэрыем адзнакі стала развіццё недзяржаўнай прэсы.**

У першую катэгорыю **Дж. МакКормак** уключыла нашых суседзяў – Расію і Украіну, дзе недзяржаўная прэса развіваецца найбольш дынамічна.

У другой катэгорыі апынуліся Арменія, Малдова, Грузія, Туркменістан і Таджыкістан. Там шмат электронных і друкаваных СМІ, аднак рост альтэрнатыўных абцяжараны малым аб'ёмам рынку і інвестыцый.

У трэцюю катэгорыю трапілі Азербайджан і Казахстан. Нягледзячы на тое, што гэтыя краіны маюць значныя даходы ад экспарту газу, сродкі масавай інфармацыі слаба адчуваюць гэта. Развіццё незалежных СМІ абцяжарана, як і ў нас, бюракратычнымі мерамі: рэгістрацыя, перарэгістрацыя, ліцэнзія.

У апошнюю катэгорыю ўвайшлі Узбекістан і Туркменістан. У першай краіне дзяржаўная прэса каштуе танней у некалькі разоў за недзяржаўную. Палітычным партыям наогул забаронена выпускаць свае газеты.

А ў Туркменістане з 1995 года ўладальнікам усіх недзяржаўных СМІ стаў прэзідэнт **Сапармурат Ніязаў**.

Беларусь, згодна з даследаваннямі Джыліян МакКормак, знаходзіцца паміж трэцяй і чацвертай катэгорыямі. Наша краіна адзначаецца высокай ступенню ўмяшання ўлады ў дзейнасць СМІ. Хаця ёсць краіны, дзе становішча СМІ пакуль яшчэ горш за нашае.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Курсы валют НБ РБ

| | 7 снежня | 14 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 1132,00 руб. | 1157,00 руб. |
| Нямецкая марка | 511,50 руб. | 517,03 руб. |
| Літ | 282,96 руб. | 289,18 руб. |
| Расійскі рубель | 40,52 руб. | 41,37 руб. |
| Злоты | 256,63 руб. | 262,98 руб. |
| ЕЎРА | 1000,40 руб. | 1011,22 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1170 – 1200 руб. | 1200 – 1220 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 06.12 | 13.12 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 5100 | 5350 |
| Сасіскі, 1 кг | 1690 | 1850 |
| Селядзец, 1 кг | 1050 | 1020 |
| Рыс, 1 кг | 390 | 410 |
| Грэчка, 1 кг | 470 | 480 |
| Цукар, 1 кг | 555 | 555 |
| Алей, 1 л | 670 | 670 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 640 | 640 |
| Маянэз, 200 г | 205 | 210 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1200 | 1200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 390 | 380 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 360 | 360 |
| Лімоны, 1 кг | 1150 | 1200 |
| Апельсіны, 1 кг | 750 | 770 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 120 | 140 |
| Капуста, 1 кг | 70 | 80 |
| Хурма, 1 кг | 850 | 800 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 900 | 850 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 800 | 850 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 800 |
| Бульба, вялікае вядро | 700 | 600 |
| Морква, 1 кг | 100 | 130 |
| Яблыкі, 1 кг | 300 | 350 |

■ СПАЖЫВЕЦ

# Чытайце правілы тарыфаў і маршрутаў

**МАЛАДЗЕЧНА. 4 жыхары горада купілі ў мінскай турфірме авіябілеты па маршруце Варшава–Парыж–Таронта. Акрамя білетаў, трэба яшчэ аформіць візы. А іх гараджане афармлялі ў іншай арганізацыі, якая праз пару тыдняў закрылася.**

У варшаўскім аэрапорце беларусы не прайшлі рэгістрацыю. Матывам адмаўлення сталі няправільна аформленыя дакументы: візы аказаліся фальшывымі.

Небаракі звярнуліся ў фірму з просьбай вярнуць грошы. Там адмовілі. Маўляў, турфірма не вінаватая ў тым, што кліенты не змаглі вылецець. Паследавала заява ў таварыства абароны спажыўцоў.

Старшыня таварыства Уладзімір Клешч:

– З юрыстам **Аляксандрам Жураўлёвым** мы склалі прэтэнзію ў турфірму з просьбай вярнуць 1948 долараў (столькі каштуюць 4 білеты). Такое права нам даюць артыкулы 7 і 11 "Правілаў міжнародных паветраных перавозак пасажыраў, багажу і грузаў". Але тут ёсць адзін нюанс. На кожным білеце ёсць штамп: "З правіламі тарыфу і маршрутам азнаёмленыя", дзе нашы кліенты распісаліся. Што напісана ў правілах, яны не гавораць. А там, хутчэй за ўсё, якраз і абгавораныя выпадкі, у якіх пасажыр мае права на частковую ці поўную кампенсацыю нявыкарыстаных авіябілетаў.

Таму не выключана, што гэтая справа дойдзе да суда.

**Падрыхтаваў**
**Юрый КАРПІЦКІ.**

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

# Беспрацоўе ў рэгіёне на 1 снежня

| | Колькасць беспрацоўных на 1 снежня | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1292 (+32) чал. | 2,2% |
| Маладзечанскі раён | 222 (+17) чал. | 0,9% |
| Астравецкі раён | 317 (+3) чал. | 2,1% |
| Ашмянскі раён | 149 (+4) чал. | 0,8% |
| Валожынскі раён | 180 (+9) чал. | 0,9% |
| Вілейскі раён | 497 (+28) чал. | 1,6% |
| Мядзельскі раён | 214 (-3) чал. | 1,2% |
| Смаргонскі раён | 1109 (-71) чал. | 3,3% |
| **Усяго па рэгіёне:** | **3980 (+19) чал.** | |

У дужках паказана змяненне колькасці ў параўнанні са станам месячнай даўнасці. Рэзка змяншаецца колькасць беспрацоўных на Смаргоншчыне. 2 месяцы таму там іх было 1278 чалавек.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

 



# Самаму важнаму дакументу чалавецтва – 52 гады

**10 снежня 1948г. Генеральная Асамблея ААН зацвердзіла і абвясціла бадай самы важны дакумент у сваёй гісторыі – «Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека». Ён разглядаўся ў якасці «задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы”.**

Сорак восем краін прагаласавалі за Дэкларацыю, восем устрымаліся, але ніхто не прагаласаваў супраць. Тым не менш, пэўны час прынцыпы, закладзеныя ў ёй не мелі рэальнага ўплыву. Як тое ні дзіўна, сацыялістычнаму блоку на чале з СССР і краінам Заходняй Еўропы разам з ЗША было прасцей дамовіцца аб культурным і эканамічным супрацоўніцтве і нават раззбраенні, чым аб такім зразумелым для ўсіх пытанні, як правы чалавека. Менавіта з-за гэтага пункту затрымлівалася падпісанне Заключнага пагаднення Еўрапейскай Нарады, што праходзіла на рубяжы 60-70-х гадоў. Так ці іначай, але простыя людзі аказаліся больш рашучыя за палітыкаў. У розных краінах свету грамадскасць патрабавала ад сваіх урадаў прывесці нацыянальнае заканадаўства ў адпаведнасць з міжнароднымі нормамі па правах чалавека і выконваць іх. Сітуацыя з правамі чалавека у розных краінах выглядала па-рознаму. Сярод краін, дзе праблема парушэння правоў чалавека стаяла найбольш востра, былі Алжыр, В'етнам, Ірак, КНР, КНДР, Куба, Лівія. У многіх з іх сітуацыя і дагэтуль выклікае заклапочанасць. На жаль, цяпер да гэтага сумнавядомага спісу далучылася і Рэспубліка Беларусь.

У Савецкім Саюзе ўпершыню праваабарончы рух заявіў пра сабе ў 1968г., калі ў знак пратэсту супраць акупацыі войскамі Варшаўскага дагавора Чэхаславакіі на Красную плошчу выйшла група грамадзян. За падобную дзейнасць многіх з праваабаронцаў накіроўвалі ў ссылку (як акадэміка А. Сахарава), ці на “лячэнне” у “псіхбальніцы” (як генерала П. Грыгарэнку). Неабходна дадаць, што ў 1973г. СССР ратыфікаваў Міжнародны Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, створаны на падставе Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У 1975г. у Хельсінкі праходзіў чарговы этап Нарады, на якой была падпісаная тая спрэчная частка Пагаднення, прысвечаная грамадзянскім, палітычным, сацыяльным і інш. правам чалавека. Гэтая падзея мела па-сапраўдным важнае значэнне. Сталіца Фінляндыі Хельсінкі стала сімвалам заканчэння “халоднай вайны”і пачатку салідарных дзеянняў чалавецтва ў барацьбе за мірнае супрацоўніцтва і правы людзей. Ад таго моманту шматлікія праваабарончыя арганізацыі сталі называць сябе “Хельсінкскімі”, незалежна ад сваёй нацыянальнай прыналежнасці.

На сённяшні дзень больш чым у ста краінах свету існуюць Хельсінкскія камітэты, групы і фонды, якія аб'яднаныя ў Міжнародную Хельсінкскую Федэрацыю (МХФ). Напэўна, у свеце няма іншай арганізацыі, меркаванне якой па пытаннях, звязаных з праблемай абароны правоў чалавека, лічыцца амаль бясспрэчным.

Уваходзіць у гэту аўтарытэтную арганізацыю і Беларускі Хельсінкскі камітэт (БХК).

Асноўнымі напрамкамі сваёй дзейнасці гэта незалежная, дабрачынная, непалітычная, грамадская арганізацыя вызначае абарону правоў чалавека. БХК дабіваецца удасканальвання нацыянальнага заканадаўства і выканання міжнародных стандартаў па правах чалавека. Арганізацыя выступае супраць гвалтоўных формаў дзейнасці і дабівацца сваіх мэтаў у межах існуючага заканадаўства.

БХК гатовы супрацоўнічаць як з дзяржаўнымі, так і з грамадскімі арганізацыямі і простымі грамадзянамі. Адзіная умова: не разважаць аб правах чалавека, а абараняць іх на самой справе.

Як вам атрымаць нашу дапамогу?

Грамадская прыёмная дае бясплатныя юрыдычныя кансультацыі. Каб яе атрымаць, вам неабходна:

Падаць нам пісьмовую заяву;

Мець дакументальныя доказы таго, што на папярэднія звароты ў дзяржаўныя ўстановы вам далі адмоўны адказ, які вы лічыце неабгрунтаваным, ці ўвогуле не далі ніякага адказу ва ўстаноўлены законам тэрмін.

## 10 пытанняў, адказы на якія павінны ведаць кожны

**1) Што такое правы чалавека?**

Правы чалавека – гэта правы на свабоднае і справядлівае жыццё, якімі валодаюць усе людзі. Яны ўяўляюць сабой маральнае права ўсіх людзей прад'яўляць адпаведныя патрабаванні да паводзінаў пэўных асоб і формы ўстройства грамадства. Правы чалавека пералічаныя ў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншых міжнародных дакументах.

**2) Хто надзелены правамі чалавека?**

Усе людзі надзеленыя правамі чалавека ўжо таму, што яны людзі. Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і свабодамі незалежна ад яго расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных або іншых перакананняў, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжання.

**3) Якія правы важнейшыя?**

Правы чалавека з'яўляюцца непадзельнымі і ўзаемазалежнымі. Нельга падаўляць адныя правы, каб падтрымліваць іншыя. Грамадзянскія, палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы аднолькава неабходныя для забеспячэння дастойнага жыцця.

**4) Калі правы чалавека здзяйсняюцца?**

Здзяйсненне правоў чалавека наступае тады, калі людзі, якіх гэта тычыцца, атрымліваюць доступ да свабоды і рэсурсаў, гарантаваным правам. Ні доступ да гэтых правоў, ні іх здзяйсненне аўтаматычна не гарантаваныя. Гісторыя сведчыць пра тое, што людзі павінны змагацца за свае неад'емныя правы.

**5) Хто адказвае за здзяйсненне правоў чалавека?**

Дзяржава нясе асноўную адказнасць і абавязак ахоўваць, падтрымліваць і здзяйсняць усе правы чалавека і асноўныя свабоды. Заўсёды, калі права парушаецца або недастаткова эфектыўна ахоўваецца, гэта тлумачыцца невыкананнем сваіх абавязкаў канкрэтнай асобай або ўстановай.

**6) Хто мае права парушаць правы чалавека?**

Ніхто не павінен удзельнічаць у парушэнні правоў чалавека і ніхто не можа падвяргацца якому–небудзь пакаранню або пераследаванню за адмаўленне ад удзелу ў гэтым.

**7) Ці існуе права дабівацца здзяйснення правоў чалавека?**

Усе людзі маюць права патрабаваць такіх сацыяльных умоў, якія абаранілі б іх ад злоўжыванняў і нястач, гарантуючы свабоднае і дастойнае жыццё. Гэтае права абвешчана ў Дэкларацыі аб праве і абавязку пэўных асоб, груп і органаў грамадства падтрымліваць і ахоўваць агульнапрызнаныя правы і асноўныя свабоды.

**8) Ці дастаткова прыняцця законаў, каб правы чалавека захоўваліся?**

Самі па сабе законы не могуць гарантаваць здзяйсненне правоў чалавека. Без справядлівага адпраўлення правасуддзя законы ў галіне правоў чалавека не маюць ніякай сілы.

**9) Які палітычны строй з'яўляецца найлепшым з пункту гледжання правоў чалавека?**

Дэмакратыя ўяўляе сабой адзіную форму палітычнага строя, сумяшчальную з усімі пяццю катэгорыямі правоў: эканамічнымі, сацыяльнымі, палітычнымі, грамадзянскімі і культурнымі.

**10) Навошта трэба ведаць правы чалавека?**

Таму што правы чалавека – гэта Вашы правы.

Цэнтр па вывучэнні Цэнтр па вывучэнні ААН, 2000. Акцыя “Кожны чалавек мае права ведаць пра свае правы”.

Крыніцы: Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека; Дэкларацыя аб праве і абавязку пэўных асоб, груп і органаў грамадства падтрымліваць і ахоўваць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды; Даклад аб развіцці чалавека за 2000 год.



Фота IREX/ProMedia

**Актывісты праваахоўных цэнтраў раздаюць брашуры на пр. Скарыны ў Мінску ў дзень гадавіны аб'яўлення аб Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, 10 снежня 2000 года.**

## Вы хочаце даведацца пра свае правы?

У вас ёсць такая магчымасць. Пачынаючы з 4 снежня, Цэнтр па вывучэнні ААН (праект Праграмы развіцця ААН, Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта) праводзіць акцыю “Кожны чалавек мае права ведаць пра свае правы”. Мэта акцыі – інфармаваць кожнага жадаючага пра яго правы і свабоды, прызнаныя ў асноватворных міжнародных дакументах. Гэтымі дакументамі з'яўляюцца:

- **Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека і**
- **Дэкларацыя аб праве і абавязку пэўных асоб, груп і органаў грамадства падтрымліваць і ахоўваць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды.**

– Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека была прынятая 10 снежня 1948 года Генеральнай Асамблеяй ААН. Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека – гэта асноўны міжнародны дакумент, які абвяшчае неад'емныя і непарушныя правы ўсіх членаў чалавечай сям'і. Яе прызначэнне – служыць “у якасці задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы”. Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека патрабуе забеспячэння абароны ад несправядлівых законаў і практыкі на той падставе, што, незалежна ад характару існуючага заканадаўства, людзі надзеленыя пэўнымі правамі ўжо таму, што яны належаць да чалавечай расы. Ніводная дзяржава, якая заяўляе аб сваёй прыхільнасці да захавання правоў чалавека, не можа ігнараваць палажэні Дэкларацыі.

Дэкларацыя аб праве і абавязку пэўных асоб, груп і органаў грамадства падтрымліваць і ахоўваць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды была прынятая Генеральнай Асамблеяй ААН 9 снежня 1998 года. Дэкларацыя абвяшчае права кожнага чалавека – індывідуальна і сумесна з іншымі – імкнуцца ахоўваць і здзяйсняць правы чалавека і асноўныя свабоды. Акрамя таго, Дэкларацыя ўскладае асноўную адказнасць і абавязак ахоўваць і здзяйсняць правы чалавека на дзяржаву.

Для таго, каб бясплатна атрымаць кішэнную кніжку з тэкстамі гэтых дэкларацый, дастаткова прысласць канверт са зваротным адрасам у Цэнтр па вывучэнні ААН (220107, Мінск, вул. Акадэмічная, 25, п. 406). Прымаюцца калектыўныя заяўкі ад любых арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў. Арганізацыям, што знаходзяцца ў Мінску, неабходна арганізаваць самастойны вываз кніжак з Цэнтра па вывучэнні ААН. Арганізацыям, якія знаходзяцца ў іншых населеных пунктах, прапануецца ці арганізаваць самастойны выўаз, ці звярнуцца з просьбай аб высылцы іх поштай. У другім выпадку Цэнтр возьме на сябе ўсе паштовыя выдаткі, але колькасць кніжак будзе абмежаваная, а тэрмін дастаўкі – больш працяглы.

Кніжка – гэта ўсяго толькі кніжка. Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека – гэта нешта большае, чым проста дэкларацыя. Бо менавіта правы чалавека робяць нас людзьмі. Яны падобныя на паветра. Мы думаем пра іх толькі тады, калі робіцца немагчыма дыхаць. Дык вы хочаце ведаць пра свае правы?

**Цэнтр па вывучэнні ААН, 2000.**

## Мітынг за правы чалавека

**МАЛАДЗЕЧНА. Да трохсот чалавек пад сцягамі Еўрасаюза і бела-чырвона-белымі сабралася ў мінулую нядзелю на “круглай пляцоўцы” гарадскога парку на мітынг, прысвечаны 52–й гадавіне Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.**

У адрозненне ад уладаў іншых беларускіх гарадоў мясцовы гарвыканком не стаў чыніць перашкоды грамадзянам у правядзенні мітынгу.

Парушэнні правоў чалавека сталі лейтматывам ці не кожнага выступлення. Большасць прамоўцаў не абмяжоўваліся абстрактнымі фразамі і разважаннямі, а прыводзілі рэальныя факты з нашага жыцця.

Былі сярод прысутных і такія, хто лічыць, што ў Беларусі з правамі чалавека – поўны парадак. Ім таксама было прапанавана слова. У прыватнасці, гэта намагаўся даказаць пенсіянер, які не назваўся.

Але маладыя людзі, апранутыя ў кашулі з выявамі зніклых у Беларусі вядомых людзей наўрад ці былі з ім згодныя, як і большасць з прысутных. “Дзе яны?” было напісана пад партрэтамі Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красуцкага, Дзмітрыя Завадскага.

На мітынгу раздавалі брашуры з тэкстам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека на беларускай і рускай мовах. Асаблівы інтарэс кніжачкі выклікалі ў супрацоўнікаў міліцыі, якія ад пачатку да канца мітынгу вялі відэаздымку.

Арганізавала мерапрыемства мясцовая аб'яднаная апазіцыя, якая знайшла паразуменне яшчэ раней за сваіх сталічных аднадумцаў. Усё прайшло спакойна, таму ўсе бакі засталіся задаволеныя.

**Аддзел інфармацыі “РГ”.**

 

